Pregląd Wilenski Dzieraszewskiego 21-6

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 27 траўня 1933.

№ 11.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## ПАЗНАВАЙМА СВАЕ ПРАВЫ.

У працягу мінулых Вялікодных Сьвятаў Т-ва Беларускае Асьветы (ТБА) паслала на правінцыю цэлы рад лектароў-студэнтаў дзеля чытаньня лекцыяў на загадзя распрацаваную ў цэнтры тэму: **Абавязкі і правы беларусаў у Польскай Рэспубліцы.** На-жаль, ня ўсюды лектаром удалося прачытаць гэту лекцыю: мы ўжо падавалі вестку аб тым, як аднёсся да лектара, прыкладам, п. староста ў Пружане... А тым часам якраз гэтая тэма зьяўляецца асабліва важнай і патрэбнай у нашай вёсцы.

Пасьля такога сільнага ўстрасеньня, якое вёска беларуская перажыла падчас „ліквідацыі" „Грамады", пасьля цэлага раду „ліквідацыяў" камуністычных і „камунізуючых" арганізацыяў — сярод нашага сялянства запанаваў такі страх, што людзі пачалі баяцца абсолютна ўсяго. Баяцца яны ня толькі таго, што — паводле існуючых законаў — падлягае перасьледаваньню і кары, але й таго, на што — паводле тых-жа законаў — кожын беларус мае поўнае права.

Ведама, адной з галоўных прычын гэтага страху ёсьць тое, што прадстаўнікі адміністрацыі на мясцох, у сувязі з усялякімі „ліквідацыямі" палітычных арганізацыяў сярод беларусаў, пад паняцьце „антыцаньствовасьці" й „вывротовасьці" залішне ўжо часта падводзілі й падводзяць навет зусім апалітычную, выключна культурна-прасьветную беларускую працу і адносяцца да яе няпрыхільна. Не далёка шукаючы, падамо, як прыклад, адну гміну (пакуль-што яе не назавем), у якой ні адна беларуская газэта не даходзіць да адрасатаў, хаця „Родны Край" высылаецца туды, здаецца, ад першага нумару вельмі акуратна.

Але ёсьць і другая прычына. Гэта — няведаньне сялянствам сваіх правоў. Вельмі часта людзі глыбака пераканаты, што запраўды закон перасьледуе ўсё беларускае, што за прызнаваньне сябе беларусам, за чытаньне беларускіх кніжак і газэт, легальна выходзячых у Польшчы, за вучэньне дзяцей пабеларуску, за беларускія спэктаклі і г. д. можа быць на закону нейкая кара і т. п. А тым-часам па закону мы маем поўнае права ўсё гэта рабіць, і Канстытуцыя Польшчы якраз абавязывае адміністрацыйныя ўлады шанаваць нацыянальныя асаблівасьці гэтак-званых меншасьцяў і навет суліць фінансавую дапамогу меншасьцям на іх культурную працу (арт. 109 і 110).

Дык вось, калі гэтыя пастановы Канстытуцыі не выпаўняюцца, то гэта ёсьць непашана законаў Рэспублікі, і з гэтым мы можам і павінны змагацца тымі спосабамі і шляхамі, якія прадбачыць закон. Але дзеля гэтага-ж і неабходна перадусім ведаць, якія ёсьць нашыя правы, ведаць, якім чынам можна і трэба даходзіць свайго. Вось-жа, адзначаючы тут распачатую ў гэтым кірунку акцыю ТБА, мы выказваем нашае пажаданьне, каб гэтая акцыя інформаваньня вёскі аб яе абавязках і правох у Польскай Рэспубліцы была магчыма пашырана шляхам надрукаваньня адпаведна апрацаванае брашуры, даступнае для кожнага.

**Толькі ведаючы нашыя правы мы здолеем іх абараніць і зьдзейсьніць.**

## Што такое „кітайскі мур".

Часта мы ў гутарцы ўжываем выражэньне „кітайскі мур": „адгарадзіўся кітайскім мурам", „за кітайскім мурам" і г. д. А цяпер—у часе японска-кітайскае вайны, якая вядзецца якраз каля кітайскага муру, выражэньне гэтае ня зыходзіць з страніц газэт. Дык трэба здаць сабе справу, што-ж такое гэты „кітайскі мур", аб якім казаў і кажа цяпер увесь сьвет.

Трэба прызнаць, што гэты „кітайскі мур" — варты такое сусьветнае славы як па сваім адзіным у сьвеце вялізарным разьмерам, таксама й па свайму глыбокаму навучальнаму значэньню.

Кітайскі мур кітайцы пачалі будаваць каля 2500 гадоў назад, а скончаны ён за тры вякі перад Нарадзінамі Хрыста. Такім чынам будаваньне яго цягнулася больш як тры сталецьці. Дый ня дзіва: бо-ж мур гэты цягнецца ад затокі Чы-лі на ўсходзе, ідзе на поўнач ад Пэкіну, далей на захад, аддзяляючы ўвесь Паўночны Кітай ад Манджурыі і ад

Унутранае Манголіі. Такім чынам гэты мур цягнецца на працягу каля 5.760 кілёмэтраў...

Але гэткая даўжыня не дае яшчэ поўнага паняцьця аб вялікасьці гэтае будоўлі: трэба ведаць і іншыя яе памеры. Дык вось, вышыня муру ад 6 да 8 мэтраў (3-4 сажнёў), а шырыня такая, што па ім выгодна можа ехаць шасьцёра конных людзей у рад. Дык цяпер якраз гэты мур і выкарыстаны, як дасканалы брукаваны шлях камунікацыі.

Удоўж усяго муру — на адлежнасьці 2 стрэлаў з луку — у ім прароблены брамы з вежамі, на якіх жыла азброеная варта, бараніўшая ўваходы і выхады ў край. У найважнейшых стратэгічных пунктах да муру дабудаваны запраўдныя крэпасьці.

Каб даць паняцьце аб тэй масе матэрыялу, якая пайшла на гэтую папросту казачную, запраўды-ж, як кажуць цяпер бальшавікі, „плянэтарную" будоўлю, скажам, што матэрыялу гэтага — каменьня ды вапны — хапіла-б на тое, каб два разы апаясаць зямную кулю мурам у 2 мэтры (1 сажань) вышынёй і больш за паў-мэтру шырынёй...

Будоўля гэтая настолькі добра, трывала зроблена, што, пратрываўшы блізу 2500 гадоў, добра захавалася наагул аж дагэтуль. Толькі вось... мэты свае гэтыя абаронныя, ахоўныя муры не дасягнулі...Кітайскія царыбагдыханы, пабудаваўшы муры, пачуліся за сваім „кітайскім мурам" у поўнай бясьпечнасьці. Мірна-гандлёвы і прамысловы кітайскі народ — „за кітайскім мурам" — ня вырабіў у сабе патрэбнае дзеля запраўднае бясьпечнасьці у сьвеце ваеннае адвагі ды актыўнае здольнасьці да абароны. А дзеля таго, калі дайшло да гістарычнае сутычкі кітайскага народу з ваяўнічымі паўночнымі народамі: манголамі ды манджурамі, дык не памаглі й гэтыя слаўныя на ўвесь сьвет кітайскія муры: усе гэтыя народы пачарзе панавалі над кітайскім народам... А якраз манджурская дынастыя і была тэй, што панавала ў Кітаі да апошніх дзён яго монархічнага ладу. Не адратавалі кітайскія муры Паўночнага Кітаю і ад нападу й захвату з боку Японіі!..

Калісьці, у старажытнай Грэцыі, прапазіцыя пабудаваць муры навакол сталіцы разглядалася, як дзяржаўная здрада. „Найлепшымі мурамі, цалком выстарчаючымі для абароны айчыны, зьяўляюцца ваенная адвага і штука яе грамадзян, любоў да роднае зямлі яе народу". Так адказаў раз назаўсёды на гэтую прапазіцыю адзін з мудрацоў-законадаўцаў старое Грэцыі. „Муры-ж толькі панізяць гэтую адвагу і штуку, „разбабяць" патрэбнае для жыцьця і барацьбы мужотва"... Дый ня толькі лёс Кітаю, але й дасьлед апошняе вайны вельмі добра пацьвярджае гэтую праўду. Ведама ўсім народам казка аб тым, як нехта дарэмна хацеў ад напарочанае яму сьмерці ад перуна схавацца за каменныя муры ў склепе... Ведама-ж таксама ўсім, што цяпер ад страшэннага ўдару перуна бароніць проста кавалачак цененькага дроту: трэба толькі мець веду, як і што з ім зрабіць... Дык ня дзіва, што нідзе ніхто цяпер не бароніцца мурамі, асабліва-ж у нашыя часы бомбардуючых самалётаў, дынаміту і б'ючых

---

# ЯДВІГІН Ш.

**(Антон Лявіцкі).**

*Жыцьцё і літэратурная творчасьць.*

(Працяг).

Літэратурная спадчына Ядвігіна Ш. прадстаўляецца наступна. Асобнымі кніжачкамі вышлі: «Дзед Завала» (1910 г,) «Бярозка» (1912), «Васількі» (1914), «Uspaminy» (1921). Апрача гэтага ёсьць яшчэ незакончаная повесьць «Золата» (друкаваная ў газэце «Беларусь» у Менску, 1920 г.), «Лісты з дарогі» («Наша Ніва», 1910 г.) і некаторыя творы, друкаваныя ў «Бѣлорускомъ Вѣстникѣ» і «Zorzy Wileńskiej». Драматычны абразок «Злодзей» (1893 г.), здаецца, загінуў, але аб ім некаторыя весткі і ўвагі знаходзім у М. Гарэцкага і А. Навіны. Есьць яшчэ творы дагэтуль недрукаваныя. Дзе яны—невядома.

Творчасьць Ядвігіна Ш. можна падзяліць на тры пэрыяды:

I пэрыяд — да 1906 г. — гэта пэрыяд першых літэратурных спробаў Ядвігіна Ш., якія ён пачаў рабіць пад уплывам Марцінкевіча,—яго першых выступленьняў у друку (сьпярша парасейску й папольску); творы піша ён і прозай і вершам, пробуе пісаць і драмы.

II пэрыяд — ад 1906 да 1915 г. — у якім ён даходзіць, так сказаць, да Glanzpunkt'u ў сваёй літэратурнай працы. За гэты час ён найбольш і друкуецца. Гэта найпрадуктыўнейшы пэрыяд творчасьці Ядвігіна Ш.

III пэрыяд—ад вайны да сьмерці (1915-1922)—гэта «захад» яго творчых сілаў, яго раўнамерны, павольны схілак.

Першым дэбютам Ядвігіна Ш. у беларускім друку было апавяданьне «Суд», надрукаванае ў № 3 першае беларускае газэты «Наша Доля». Але яшчэ перад гэтым Ядвігін Ш., як кажа Гартны, «у турме пераклаў на беларускую мову» апавяданьне расейскага пісьменьніка Гаршына „Сыгнал" (1891 г.). Пераклад гэтага апавяданьня прыпісывае Ядвігіну Ш. і М. Пятуховіч. Ці быў аднак зроблены пераклад «Сыгналу» Ядвігіным Ш., напэўна невядома. Аўтарства перакладу прыпісвалі сабе аж два былыя студэнты *). Гэта яшчэ больш заблутывае справу. Можна напэўна сьцьвярдзіць, што Ядвігін Ш. прыймаў удзел у перакладзе, які найпраўдападобней быў зроблены колектыўна.

Ядвігін Ш., як мы ўспаміналі, сустрэўся ў Маскве з народніцкім рухам, які галоўным чынам шырыўся ў Расеі. У той час

---

*) Аб гэтым мне казаў гр. А. Луцкевіч. Прозьвішчы іх аднак ён ужо не памятае.

на 50 кілёмэтраў 40-сантымэтравых гарматаў... Адзінай запраўднай абаронай зьяўляецца ў нашыя часы, як і заўсёды даўней — непераможны навукова й тэхнічна — творчы дух народу ды шляхотная адвага яго, яго любоў да волі, яго пагарда да няволі. Трафна сказаў нямецкі філёзоф, што перамагае ў жыцьцёвай барацьбе той народ, які больш любіць і цэніць жыцьцё, а адначасна менш баіцца сьмерці. Таму, як толькі якісь народ акружыць сябе тым ці іншым „кітайскім мурам“ ад жыцьцёвае барацьбы, ад запраўднага драматызму біолёгічнае і культурнае конкурэнцыі з іншымі народамі, якая зьяўляецца неадхільным законам і мэтадам гістарычнага поступу, — дык заўсёды такі народ чакае на яго жыцьцёвым шляху няўхільная катастрофа. Старая шляхоцкая Польшча — з яе „шляхоцкімі прывілеямі“, самадзяржаўная царская Расея — з яе „богоспасаемасьцю“,— Вэрсальская Эўропа — з „непахільнасьцяй яе трактатаў“—кожная з гэтых гістарычных формаў мела й мае свае „кітайскія муры“, за якімі манілася ці маніцца захаваць сваю „вечнасьць і непахільнасьць“... Таксама і Кітай цяпер на нашых вачох выракае, выпрацоўвае ў сваёй душы — у цяжкай усенароднай гістарычнай спробе — новыя актыўныя дынамічныя спосабы і сродкі абароны і аховы замест старых — статычных, якія аказаліся нягоднымі, дый найхарактэрнейшым прыкладам явіх, больш пашкодзіўшым, чым дапамогшым народу, зьяўляюцца пабудаваныя 2500 гадоў таму назад, але дагэтуль захаваўшыяся, дый ня толькі „ў натуры“, але і ў душах кітайцаў, — слаўныя „кітайскія муры“...

Народу беларускаму, які, нажаль, мае шмат супольных з гэтым пасыўна-баронячымся чалавечым тыпам рысаў, трэба добра ўцяміць сабе сэнс тае гістарычнае лекцыі, якую далі кітайскія муры — чалавецтву.

# Гаспадарчы аддзел.

## Як палепшыць пасьвішча.

Усім павінна быць ведама, што гадоўля прадуктыўнае жывёлы магчыма толькі ў варунках добрага дагляду і кармленьня яе. Факт кепскага аджыўленьня жывёлы ў нас можна тлумачыць ня толькі недастаткам зямлі, а ў значнай меры жывёла галадае і дзеля таго, што гаспадары ня ўмеюць выкарыстаць тых магчымасьцяў, якія ёсьць і якія для кожнага прыступны.

Пасьвішчы нашыя (і то найлепшыя толькі першыя 3 — 4 тыдні ўвясну даюць больш-менш здавальняючы ўзрост траваў, а пасьля травы адрастае гэтак мала, што жывёла амаль-што заўсёды ходзіць галодная, і пасьвішча фактычна перастае быць пасьвішчам, а зьяўляецца толькі выганам. Гэта мы гаварылі аб лепшых пасьвішчах, дык што тагды казаць аб такіх пасьвішчах, якія пакрыты куп'ём, на каторым расьце толькі мох, ды кіслымі травамі і шкадлівым ліказельлем! Такія пасьвішчы патрабуюць груптоўнага паляпшэньня: у працягу 3 — 4 год

т

варыліся Базаравы, у той час праяўлялі дзеяльнасьць усялякія народніцкія партыі. Але ўплыў народніцтва зьверху толькі закрануў Ядв. Ш. Уплыў гэты быў налётны. Аднак, у тэй ці іншай форме, ён быў. І дзеяньнем гэтага ўплыву трэба вытлумачыць паўстаньне такіх глыбокіх твораў агульналюдзкага характару, як »З бальнічнага жыцьця«, «Зарабляюць» і інш. У студэнцкіх разрухах і ў адседцы ў Бутырках трэба шукаць корня абурэньня на шпегаў, а такжа некаторых іншых матываў, якія выяўляе Ядвігін Ш. у творах «Пратэст», „Сабачая служба“, у пэўнай меры „Зарабіў“ і іншых. Гэны ўплыў народніцтва — налётны, як мы казалі, — павінен быў пераажыць пэўныя зьмены падчас рэволюцыі 1905-6 г. Гэтыя зьмены, здаецца, ішлі ў двух кірунках: адзін цяжкі да шляхоччыны Ядв. Ш., другі — да народніцтва. Гэтым трэба вытлумачыць паўстаньне алегарычных твораў Ядв. Ш., як „Павук“, „Сіло“ і інш., і адначаснае супрацоўніцтва з чорнасоценнай групай «Бѣлор. Вѣстника», якая стварылася ў часы рэакцыі (1906-7 г.). Ядв. Ш., бясспрэчна, вынес з студэнцкіх часоў зразуменьне ідэі народнікаў, спачуцьцё да іх імкненьняў, гуманітарызм, новыя погляды на народ. Але ў глыбі духовае істоты сваей Ядв. Ш. застаўся такім самым, на якога яго ўзгадоўвалі, і такім ён ужо быў да сьмерці. Ядв. Ш., праўда, згаджаецца з тым, што жыцьцё йдзе наперад, і ён сам часта плыве з хваляй, але, плывучы, ён заўсёды мае нейкі асадак у душы. У гэтым сэньсе ён рамантык. Ці ня знойдзем мы пэўныя водгукі гэтага індывідуальнага рамантызму у «Дубе—Дзядулі»?

У 1893 г., ужо па вавароце на Бацькаўшчыну, Ядвігін Ш. піша драматычны абразок « Злодзей», які меў быць пастаўлены на сцэне ў Радашкавічах. У ім мы выразна бачым ідэолёгічны твар Ядвігіна Ш. Зьмест яго, кажа А. Навіна, вельмі красамоўна гаворыць аб тым, што радыкалізм, навеяны Масквой, не знайшоў у душы поэты глыбейшага грунту». Галоўнай ідэяй гэтае драмы было — паказаць «вышэйшасьць» пана над мужыком. Мужык і п'яніца, і злодзей, наагул нікчэмны чалавек. Ядвігін Ш. не стараецца апраўдаць упадак яго гістарычна - соцыяльна - эканамічнымі ўмовамі жыцьця, у якіх ён вякамі знаходзіўся. Ен бачыць у ім благую ад прыроды натуру. Пан — ужо мае іншую кроў.

Але ў Ядвігіна Ш. ёсьць другі твар, твар таго студэнта ў Масквы, народніка, які яшчэ нядаўна сядзеў у Бутырках. Гэтыя два псыхічныя абліччы Ядвігіна Ш. часамі ўглядаюцца ў сябе і часта ўваходзяць

іх трэба пратрымаць пад палявой культурай, а пасьля засяваць адпаведнай мешанінай траваў і ў наступныя 2 гады ізноў пускаць пад выпас. Бязумоўна, такое паляпшэньне пасьвішча ня можа адбыцца адразу на ўсенькім абшары, але гэта можна рабіць паступова, адводзячы кожны год пад палявую культуру невялікія кавалкі. Палявая гаспадарка на такіх кавалках звычайна вядзецца наступным спосабам: спачатку летам пасьвішча плытка гарэцца і так ляжыць аж да восені (або й да вясны). Восеньню дзярно разьбіваецца бараною (лепей дыскаваю), і плошча ізноў гарэцца, але ўжо значна глыбей, чым першы раз. Вясною наступае трэцяя ворка, і пасьля ўжо сеецца авёс, лён, проса, ці якая-небудзь іншая расьліна. Далейшыя два гады ідуць корамьплоды на хлеўным гнаі, і нарэшце на трэці год, калі зямля добра выраблена, сеюцца травы з ахоўнай расьлінай (авёс, ячмень, вікавая мешаніна), або і без яе, калі не баімося ліхазельля. Увосені на пасеў можна пусьціць на кароткі час жывёлу; ад гэтага прытоптаныя травы лепей закараняцца. У наступным годзе ўжо можна нармальна пасьвіць жывёлу, але ўсё-ж такі трэба ня пушчаць яе залішне рана вясною, а якісьці час перачакаць.

Дзеля таго, што насеньне траваў каштуе дорага, дый з распрацаваньнем дзярна маем шмат клопату, то грунтоўнае паляпшэньне трэба праводзіць акуратна і ўважліва. Найлепей у такіх выпадках зьвярнуцца за парадай да найбліжэйшага агранома. Калі-ж у нас на пасьвішчы дзірван не такі ўжо кепскі, то няма патрэбы яго разрабляць. Лепшага росту траваў можна дасягнуць правідловым карыстаньнем і дагля дам. Правідловае карыстаньне будзе тагды, калі мы ня будзем пасьвіць жывёлу на ўсім пасьвішчы адразу, але калі яго разаб'ем на 4—5 кавалкаў і будзем па чарзе спашываць кожны кавалак. Калі мы, прыкл., падзелім усё пасьвішча на 4 кавалкі, то тагды на кожным кавалку будзем пасьвіць 2 тыдні, і ў працягу 6 тыдняў трава будзе на кожным кавалку адрастаць. Калі адзін кавалак выпасены, тагды жывёлу пераганяем на другі кавалак, а на першым кавалку раскідаем застаўшыяся на пасьвішчы кратовыя капцы, кал, а само пасьвішча сільна барануем; праз два тыдні жывёла пераганяецца на трэці кавалак, а другі барануецца і г. д. Апрача чаргаваньня кавалкаў, мусіць быць таксама пэўнае чаргаваньне розных відаў жывёлы на адным і тым-жа кавалку. Першымі на сьвежае пасьвішча прыходзяць каровы, пасьля коні і нарэшце авечкі. Гусей і сьвіней на такія пасьвішчы зусім нельга пушчаць.

Гнояцца пасьвішчы пераважна ўвосені. Дробны хлеўны гной расьцярушваецца па ўсім пасьвішчы і толькі вясной зграбаецца. Таксама паступовыя гаспадары ўвосені гнояць пасьвішчы каінітам і тамасінаю.

Калі ўсяго сказанага тут зьдзейсніць не удаецца, дык трэба прынамся разьбіць пасьвішча на часткі і карыстацца імі так, каб кожная частка пасьля выпасу мела хоць тыдзень часу на адрастаньне.

**С. А.**

---

у колізію. Але звычайна яны зьліваюцца і ў рэзультаце даюць абраз кшталтам складанае фотографіі Гальтона. Гэты другі народніцкі твар усьміхаецца. І вось Ядвігін Ш. — сустрэўшыся з вельмі крытычнай ацэнкай «Злодзея» з боку «нашаніўскае сям'і», — перарабляе «Злодзея». Замест пана ён выводзіць вучыцеля, які мае прасьвяціць народ. Асьвета народу — гэта-ж адзін з лёзунгаў народнікаў. Гэты народніцкі твар, зрэштай, вельмі падобны да шляхоцкага. Народніцтва захапляла вышэйшыя сфэры грамадзянства, якое, як у ідыльлі, апраналася ў сялянскія кашулі й ішло ў «народ». Ядв. Ш. месьціць у сабе народніцкі і шляхоцкі сьветапагляды. Яны неяк зжываюцца ў яго.

Ці не прабіваецца гэты ідэолёгічны дуалізм у тым духовым стане, які адбіваюць кароценькія «Раны»? На целе — раны гояцца. На сэрцы — крывавяцца. А на душы: «меншыя — заўсёды крывавяцца. Большыя — залечывае толькі сьмерць». Ці ня гэты дуалізм ёсьць прычынай пэсымізму, няяснага жалю Ядвігіна Ш. па нечым нязьдзейсьненым, які вее з першае старонкі «Васількоў»?

„Васількі закрасавалі. Не, не закрасавалі! Дзе-ж ім цяпер красаваць? Холад. Зіма. Сьнег. Не закрасавалі васількі: гэта толькі прад вачыма маімі мільганулі яны“..

Той самы шляхоцкі твар, што і ў „Злодзеі“, бачым мы ў „Жывым нябошчыку“. Рэч дзеецца ў адным маёнтку на Беларусі ў часы паўстаньня 1863 г. Пан, паніч, Зьмітрок і прыгонны селянін ідуць на паўстаньне. Пан пакідае дачку, а селянін сына Максіма. Селянін кажа сыну на выпадак, калі-б яны не вярнуліся, слухацца паненкі, пільнаваць двара і гаспадаркі і ўсяго дабра: „Глядзі на ўсё і пільнуй, як стары сабака“ — кажа бацька Максіму. Паўстанцы не вярнуліся, а Максім сумленна спаўняе загад бацькі. І тут мы бачым уплыў народніцтва і асабліва зьліцьцё яго з шляхоччынай Ядвігіна Ш. Паненка выступае ў ролі Марцінкевічаўскіх тыпаў; між мужыцкім сынам і паненкай існуюць клясычныя ідылічныя адносіны. Яны гуляюць у карты, п'юць разам гарбату. Як Максім быў яшчэ малым, паненка яго празвала Васільком за яго вочы (мужыцкае дзіця таксама можа быць прыгожае), яна бароніць Васілька ад сярдзітага бацькі (трэба вучыць народ!), яна нават вучыць яго пісаць і чытаць (трэба прасьвячаць народ!). Гэтыя народніцкія элемэнты, зьмененыя неяк уплывам Марцінкевіча, асабліва - цікава зьліваюцца з шляхоцкімі. Бо-ж тут, бязумоўна, ёсьць ідэалізацыя адносінаў паміж „мужыкамі“ і „панамі“. Гэткіх ідэальных адносінаў ніколі ня

### Пільнейшыя працы ў садзе.

1) У нашым краі ў маі месяцы, асабліва апошнімі чыспамі, часта здараюцца прымаразкі. З гэтае прычыны па ўсім садзе трэба прыгатаваць кучкі саломістага вільготнага гною і, у разе патрэбы, запаліць; дым перашкаджае хуткаму спаданьню тэмпэратуры, а апрача таго нішчыць розных шкоднікаў.

2) Гэтым часам можна яшчэ выразаць лішнія галіны і ваўчкі.

3) Трэба абавязкова зьбіраць і нішчыць гусеніцы, пакуль яны яшчэ не распаўзьліся па ўсім дрэве. Такасама, дзе ёсьць на пнёх мох і лішайнік, трэба і яго зьдзіраць; асабліва гэта лёгка робіцца пасьля дажджу.

4) Калі пачне асыпацца цьвет на яблынах і грушах, наступае найдагаднейшая пара дзеля шчапленьня за кару (кажухаваньне).

5) Новапасаджаныя дрэўцы трэба паліваць. Палівуючы, вады трэба не шкадаваць, бо лепей паліваць радзей, але затое шмат.

---

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Ад Рэдакцыі.** З прычыны нястачы мейсца ў гэтым нумары не зьмяшчаем аддзелу „Літэратурны Куток“, за што перапрашаем паважаных аўтараў. На выказанае імі пажаданьне, каб „Кутку“ было ўдзелена больш мейсца, адказываем, што зьдзейсьніць гэта здолеем пасьля заканчэньня друку вялікшае працы Хв. Ільяшэвіча аб жыцьці і літэратурнай творчасьці Ядвігіна Ш., што таксама-ж належыць да літэратуры.

**З жыцьця Беларускае Гімназіі.** 22 мая распачаліся матуральныя экзамены ў Беларускай Філіі Дзяржаўнае Гімназіі ім. Ю. Словацкага.

Напярэдадні экзаменаў моладзь перажыла цяжкую часіну. Разыйшлася чутка, што быццам сёлета вучні Беларускае Філіі ня будуць здаваць экзаменаў у сваей гімназіі — у прывычнай абстаноўцы, а павінны будуць ісьці ў польскую гімназію, філіяй якое лічыцца нашая „упаньствовёная“гімназія, ды што экзаменаваць іх будзе камісія, зложаная з беларускіх і польскіх вучыцялёў — бяз учасьця свайго дырэктара-беларуса гр. Астроўскага. Гэту чутку пацьвярджаў і тэкст атрыманае і ў Вільні, і ў Наваградку паперы з Кураторыюму аб арганізацыі матуральных экзаменаў. Ведама, што ў такіх няпрывычных варунках вучням было-б вельмі цяжка здаваць. Дык Бацькоўскі Камітэт паслаў да Кураторыюму дэлегацыю, на чале якое, на просьбу бацькоў і вучняўабітурыентаў, стануў гр. А. Луцкевіч. Дэлегацыю прыняў начальнік аддзелу сярэдніх

---

было. Сяляне ня надта спачувалі паўстанцам, а часта й варожа адносіліся да іх. Яны думалі, што шляхта хоча адабраць тыя правы, якія даў і яшчэ мае даць расейскі цар.

Гэткія элемэнты знаходзім мы і ў паэмцы „Дзед Завала“.

„Дзед Завала“ прыймаў учасьце ў паўстаньні:

„Даўно было гэта.
Хадзіць чуткі сталі,
Аб вялікай волі
ўсе заталкавалі.
Многа гаварылі,
Што загляне сонца
(Толькі памажэце!)
У вэша ваконца.
Народ йшоў у пушчу
Па долю другую, —
Пайшоў і Завала
Шукаць яснасьць тую“.

Пасьля жудасьцяў, якія ён бачыў у лясных гушчарах падчас паўстаньня, калі „свой сваго пужаўся у сваёй старонцы“, Завала робіцца лясным жыхаром. „Завала бяз пушчы, пушча без Завалы — як-бы ня ўсе дома, як-бы чагось мала. Адны песьні пелі, адны думкі мелі, друг дружка бяз слова добра разумелі“. Гаспадарка Завалы запушчаная. Завала цэлымі днямі прападае ў пушчы. Там, далёка, ёсьць „чароўны край“, дзе хаваюць нават „каня-калеку“ і „бяз зубоў сабаку“. Гэты сьвет фантазіі патрэбны Завале, бо ён задаваляе яго незаспакоеныя імкненьні. Завала стварыў сам сабе—сьвет волі. Завала зьліўся і зросся з пушчай. Гэты матыў зьліцьця чалавека з прыродай мы бачым і ў іншых творах Ядвігіна Ш., як „Бярозка“, „Дуб-дзядуля“, „Што сказаў певень“ і інш.

Зьвернем увагу на паэтыцкую вартасьць паэмкі. Гэта адзіная рэч Ядвігіна Ш., пісаная вершам пабеларуску. Тып Завалы, зарысаваны на фоне прыроды Ядвігіным Ш., насоўвае аналёгіі да палясоўшчыка Тараса у „Тарасе на Парнасе“. Магчымы таксама ўплыў „Pana Tadeusza» А. Міцкевіча, асабліва ў апісаньні пушчы. Але Ядвігін Ш. тут усё-ж арыгінальны, арыгінальны ізноў таму, што матыў, пануючы ў паэмцы, выплывае з шляхоцкае ідэолёгіі. Апісаньне пушчы і канцэрту птушак трэба залічыць да найбольш цэнных мейсцаў у паэмцы.

(Працяг будзе).

*Хведар Ільяшэвіч.*

школ п. Глухоўскі, які, выслухаўшы дэлегатаў, супакоіў іх, што ўсё будзе пастараму, а непаразуменьне узьнялося з прычыны благое рэдакцыі паперы з Куратарыюму. Так яно і сталася, і матуральныя экзамены адбываюцца для беларускіх абітурыентаў у іх Філіі — у звычайных абставінах.

На наступны школьны год, згодна з агульна-дзяржаўным плянам школьнае рэформы, ува ўсіх гімназіях, у тым ліку і беларускіх, ліквідуецца II-я кляса, а цяперашняя III-я будзе лічыцца першай.

Восем вучыцялёў Беларускае Філіі ў Вільні атрымалі ад Куратарыюму паведамленьне, што на будучы школьны год яны не запрашаюцца да працы ў гімназіі. За бортам апынуўся і кс. Станкевіч, што выклікае сярод ягоных палітычных прыяцеляў шчырае недаўменьне. Кс. Станкевіч, як ведама, у сваіх выступленьнях у „Крыніцы“ займаў заўсёды вельмі лёяльнае да школьных уладаў становішча і апраўдываў іх, калі яны выкідалі „неблагонадзёжных“ вучыцялёў (прыкл. гр. А. Луцкевіча). Той-жа кс. Станкевіч найбольш прычыніўся і да таго, каб улада не пакінула гімназіі ў руках грамадзянства (Бацькаўскага Камітэту) дый „упаньствовіла“ яе. А цяпер, пасьля „упаньствовеня“, сам-жа кс. Станкевіч аказваецца ў лічбе звольненых са службы вучыцялёў..

## На правінцыі.

**Наша праца і перашкоды ў ёй.** (Вёска Бакуны, гм. Сухаполь, пав. Пружанскі). Моладзь наша ў апошні час пачала ўсьведамляцца, а асабліва на груньце беларускае асьветы. Яна пакінула старыя благія прывычкі — п'янства, лаянкі, бойкі і г. д., што можа сьцьвярдзіць факт, што моладзь нашу ў апошні час п'янаю ніхто ня бачыў. Замест траціць час і грошы на гарэлку, моладзь пачала імкнуцца да навукі. Пачалі чытаць беларускія кніжкі і газэты; хлопцы супольна з дзяўчатамі пачалі сьпяваць прыгожыя беларускія песьні. Але гэта якраз і не спадабалася нашым мясцовым уладам, а асабліва п. паліцыянтам, якія гэту культурную працу лічаць чамусьці „вывротовай“, называючы нашых хлапцоў „бандытамі“, „камуністамі“ і г. д., што можа сьцьвярдзіць наступны факт.

Па стараму мясцоваму звычаю, 23. IV. с. г. у вёсцы Сухаполі адбываўся фэст, на які зыйшлося шмат народу, дый і з нашае вёскі хадзілі людзі. Селянін І. Л., быўшы ў Сухаполі, зайшоў на пошту дзеля атрыманьня карэспандэнцыі для вёскі. Пан ужэндкік паштовы аддаў паперы, якія былі для вёскі, і кажа: „жех пан зайдзе на пастэрунак, там сон для Бакунов 2 газэты“. Селянін, забраўшы паперы, пайшоў на пастарунак для атрыманьня вышэй успомненых газэт. Там пан камэндант, замест таго, каб аддаць газэты, пачаў яму пагражаць арыштам і газэт ня даў. Селянін, зьлякаўшыся, каб не палічылі яго „камуністам“ ды не павезьлі ў Пружану ў вастрог, не атрымаўшы газэт, пайшоў да дому.

Трэба адзначыць, што гэта ня першы раз прападаюць нашыя беларускія газэты на пастарунку. Бакуноўскі.

## У Літве.

**Беларускія арганізацыі ў Літве.** У Вільні гасьціў больш за два тыдні інж. К. Душэўскі з Коўны. Як ведама нашым чытачом, у апошнія часы — адначасна з ажыўленьнем актыўнасьці сярод беларускае меншасьці ў Літве — узьняліся паміж тамтэйшымі беларусамі сваркі, якія выліваюцца вонкі ў вельмі прыкрай форме. Грам. Душэўскі, якому робяцца ягонымі праціўнікамі ўсякага роду закіды, даваў перад віленскім грамадзянствам сваё асьвятленьне ковенскіх падзеяў і, пазнаёміўшыся з паглядамі віленцаў, заверыў тутэйшых дзеячоў, што ён будзе імкнуцца да ўнармаваньня адносінаў сярод беларусаў у Літве так, каб беларуская справа мела найбольш карысьці.

Шчыра жадаючы, каб гэта зьдзейсьнілася чым хутчэй, падаем са слоў грам. Душэўскага жменю інформацыяў аб беларускіх арганізацыях у Літве.

1. **Беларускі Цэнтр у Літве.** Істнуе і працуе з 1 красавіка 1923 году. Гэта найбольш паважная, ўсестаронная арганізацыя. У склад яе ўваходзілі закладчыкі ўсіх іншых арганізацыяў, і такім чынам яна зьяўлялася асяродкавай арганізацыяй для ўсяго беларускага руху ў Літве.

Першыя пяць гадоў Б. Ц. займаўся пераважна выдавецтвам беларускіх кніг і падгатоўкай рукапісаў. З 1928 году Б. Ц. пачаў, не пакідаючы выдавецкае працы, займацца больш жывой працай. Ён зьмяшчаў цэлы рад статцьцей у літоўскай і інш. прэсе. Ладзіў цэлы рад дакладаў і дыспутаў на беларускія тэмы. Апавяшчаў цэлы рад лекцыяў пабеларуску праз радіо. Дапамагаў маральна і матэрыяльна беларусам, дапамагаў ім у падшуканьні працы і г. д.

Б. Ц. здабыў давер да сябе і пашану Літвіноў і беларусаў.

На чале Б. Ц. стаіць праўленьне. Старшыня інж. К. Душэўскі, сэкрэтар В. Барысовіч, скарбнік І. Сіротка.

Б. Ц. месьціцца ў Коўні на Лайсвэс ал. д. 10, кв. 5.

2. **Беларускае Культурна-Прасьветнае Т-ва.** У 1932 годзе, стараньнямі і па ініцыятыве сяброў Б. Ц., а такжа некаторых беларусаў, не ўваходзячых у склад Б. Ц., было арганізавана Бел. Культ.-Прасьв. Т-ва для мэтаў спэцыяльна школьных і культурна-прасьветных. Многа зрабіць гэтаму Т-ву яшчэ не ўдалося. Як пойдзе далей праца і ў што выльецца Т-ва, трудна сказаць, але гэта будзе залежаць у значнай меры ад дзеяльнасьці праўленьня Т-ва.

На чале Бел. Культ.-Пр. Т-ва стаяць С. Якавюк і В. Боеў.

Бел. Культ. Т-ва месьціцца ў Коўні на Лайсвэс ал. № 26.

3. **Хаўрус беларусаў Літвы.** Арганізацыя створана толькі сёлета (ў сакавіку 1933 г.) і яшчэ нічым сябе ня выявіла. Самі арганізатары ня могуць вытлумачыць яе мэтаў; здаецца, яна створана з мэтай канкураваць з Беларускім Цэнтрам.

На чале Х. Б. Л. стаяць тыя-ж В. Боеў і С. Якавюк. Месьціцца там-жа, дзе і Культ.-Прасьв. Т-ва.

4. **Аб'яднаньне Студэнтаў-Беларусаў Літоўскага Унівэрсытэту Вітаўта Вялікага.** Арганізацыя чыста акадэміцкага характару. Налічвае сяброў каля 15 чалавек.

5. **Літоўска-Беларускае Т-ва.** Асобна стаіць аснованая па ініцыятыве Беларускага Цэнтру і літоўскіх дзеячоў арганізацыя, прызначаная ўзаемнаму пазнаньню і зблізкаьню двух народаў — беларускага і літоўскага. Арганізацыя паўстала толькі ў 1933 г., і трудна сказаць, у-ва што яна выльецца, але імёны асоб, якія ўвайшлі ў склад Т-ва, даюць магчымасьць думаць, што яно будзе працаздольнае і паважнае. З літвіноў паміж іншымі ўвайшлі: прафэсары М. Біржышка, Аўгустайціс, Вольтэр, Вайлёніс, З. Жэмайціс, д-р Пурыцкі, Аўкштуоліс і многа інш. З Беларускага Цэнтру ўвайшлі: прафэсары Лаппо і Т. Іваноўскі, інж. Душэўскі, Г. Іваноўская, В. Барысовіч, І. Сіротка, Ясінскі, протоер. І. Корчынскі і шмат інш.

**Рэшта назоваў.** Больш беларускіх арганізацыяў у Літве няма. Есьць толькі сэкцыі ці інстытуцыі Беларускага Цэнтру (прыкл. Курсы Грамадзкіх Навук і Беларусаведы) або Культурна-Прасьветнага Т-ва (прыкладам Тэатральная Сэкцыя і інш.).

У Беларускім Цэнтры разглядаецца справа магчымасьці ўтварэньня паразумеваўчага органу кшталтам Нацыянальнага Камітэту, але яшчэ да акрэсьленых вывадаў у гэтай справе ня дойдзена.

## У Чэхаславаччыне.

**Беларуская Рада.** 5 траўня г. г. адбыўся агульны гадавы сход Беларускае Рады ў Празе.

Сяброў сабралося досыць шмат з усіх краін Чэхіі. Быў абраны новы прэзыдыюм Старшынёю на наступны год выбраны грам. В. Захарка.

Сход пастанавіў арганізаваць фонд для дапамогі студэнтам і беларускае выдавецтва.

**Явар.**

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Гаспадарчы зьезд у Варшаве.** У Варшаве адбыўся вялікі зьезд прадстаўнікоў гаспадарчых колаў, пасьвячоны справе змаганьня з эканамічным крызісам. Зьезд трываў некалькі дзён, і ў паасобных сэкцыях яго распрацоўваліся чарговыя крокі, якія павінны быць зроблены ў розных галінах гаспадарчага жыцьця. У справе сельска-гаспадарчай зьезд, між іншым, выказаў думку, што тыя маёнткі, якія лішне ўжо абцяжоны даўгамі, павінны ліквідавацца, а замест іх павінны паўставаць новыя варштаты земляробскае працы, больш адпорныя на крызіс. —Наагул жа ў рэзалюцыях выяўляецца вельмі оптымістычны пагляд на сучасны гаспадарчы стан Польшчы і вера ў тое, што Польшчы ўдасцца выйсьці з крызісу пераможніцай.

**Зацікаўленьне Літвой.** У сувязі з чуткамі, што быццам Літва зрабіла нейкую тайную ўмову з Нямеччынай, варожую да Польшчы і балтыцкіх дзяржаў, у Польшчы ізноў прэса пачала шмат пісаць аб Літве і строіць пляны „сужыцьця" з Літвой.

## За граніцай.

**Адозва Рузвэльта да 44 народаў.** Прэзыдэнт Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Рузвэльт разаслаў да каралёў і прэзыдэнтаў 44 дзяржаў адозву, у якой запрапанаваў рашуча распачаць абмежваньне збраеньняў і зрабіць сусьветны дагавор аб ненападаньні. Рузвэльт кажа, што толькі шляхам запраўднага забясьпечаньня міру паміж дзяржавамі можна будзе ўратаваць наш сьвет ад шалеючага крызісу. Калі нейкі народ будзе працівіцца гэтаму, дык увесь сьвет будзе ведаць, дзе крыецца пагроза для агульнага міру. У адозьве адзначана, што толькі пры такім агульным забясьпечаньні міру можна будзе дабіцца запраўднага зьмяншэньня збраеньняў у Францыі і недапушчэньня павялічэньня аружных сіл Нямеччыны. Рузвэльт прапануе прыняць за падставу праект разбраеньня, паданы Мак-Дональдам. Неабходна, каб разбраенчая канфэрэнцыя і блізкая ўжо сусьветная гаспадарчая канфэрэнцыя выпрацавалі тыя меры, якія мусяць быць прыняты і праведзены ў жыцьцё ўсімі дзяржавамі.

Гэтак Амэрыка, якая дагэтуль ухілялася ад супрацоўніцтва з Эўропай, рашуча узыйшла на шлях гэткага супрацоўніцтва. „Сусьветны крэдытар", відаць, зразумеў, што запраўды ж іншага выхаду з сучаснага крызісу няма.

Выступленьне Рузвэльта бязумоўна будзе мець дужа паважныя вынікі.

**Неспадзяванка Гітлера.** Як ведама, Гітлер, робячы сваю „нацыянальную" рэвалюцыю ў Нямеччыне, абвяшчаў усім, што ён робіць пераварот, між іншым, з тэй мэтай, каб рашуча зьмяніць старую нямецкую замежную палітыку і аружнай сілай здабыць тое, што немцы лічаць для себя неабходным. У сувязі з гэтым сярод суседзяў Нямеччыны пачаўся перапалох: усе баяліся нападу з боку „нацыянальнае" Нямеччыны. Але на дзеле

аказалася, што лёгка пагражаць азброеным кулаком, але ня так лёгка пачынаць вайну, калі ў самых крызіс гоніць на вуліцу мільёны згаладалых безработных. Дык уся „ваяўнічасьць" гітлераўцаў сьпярша скіравалася проці жыдоў, але, калі тыя далі добры адпор, арганізуючы на ўсім сьвеце байкот нямецкіх тавараў, дык на гэтым фроньце Гітлер мусіў прыціхнуць. Цяпер-жа запраўднай неспадзяванкай аказалася прамова Гітлера ў Рэйхстагу, у якой ён заявіў, што Нямеччына да зьдзейсьненьня сваіх мэтаў (перагляд Вэрсальскага трактату і зьмена дасюлешніх граніц) будзе імкнуцца выключна мірным шляхам, прадугледжаным у самым Вэрсальскім трактаце. Гітлер заявіў, што Нямеччына цалком прымае прапазыку Рузвэльта і гатова супрацоўнічаць з усімі дзяржавамі над умацаваньнем міру і зьліквідаваньнем сусьветнага гаспадарчага крызісу.

Адным словам, Гітлер гаворыць акурат тое, што гаварылі ўсе яго ныя папярэднікі.

**Разбраенчая Канфэрэнцыя.** У сувязі з адозвай прэз. Рузвэльта і становішчам Нямеччыны, разбраенчая канфэрэнцыя выйшла з стану крызісу і пачала ізноў інтэнсыўна працаваць. Есьць надзея, што цяпер да нечага дагаворацца, калі ня зробіць неспадзяванкі... Францыя!

**„Саюз чатырох".** Запрапанаваны ў сваім часе італьянскім дыктатарам Мусоліні саюз чатырох вялікіх дзяржаў (Італіі, Францыі, Англіі і Нямеччыны), здаецца, мае быць створаны ў найбліжэйшым часе. Ініцыятары гэтага саюзу, так напалохаўшага ўсе малыя дзяржавы, каб супакоіць апошнія, заяўляюць, што саюз ня будзе імкнуцца да панаваньня над малымі дзяржавамі і ня будзе нічога вырашаць аб іхнім лёсе без паразуменьня з імі.

**Далейшае наступленьне японцаў у Кітаі.** Японцы ўжо стаяць пад самым Пэкінам і вось-вось увойдуць у яго. Кітайцы, якія рыхтаваліся да рашучага бою за Пэкін, неўспадзеўкі пастанавілі адыйсьці бяз бітвы, каб ня зьнішчыць сваей старой сталіцы. На гэтым грунтце камандаваньні абедзьвух варожых сабе арміяў дагаварыліся, што японцы спыняць варожыя крокі і дадуць кітайскаму войску спакойна адыйсьці з Пэкіну і яго ваколіц. Вароты Пэкіну расчынены.

## Паштовая скрынка.

**Гр. Прадуха, м. Гарадок, пав. Маладэчна.** Дзякуем за паданьне кандыдатаў. Папрасіце гэтых асоб, каб яны безадкладна прыслалі ў Сэкрэтарыят Т. Б. А. дакладныя аб сабе інфармацыі — аб веку сваім, асьвеце, матэрыяльным стане, ці былі пад судом, што рабілі дагэтуль наагул, а таксама аб ваколіцы, якую мае абслугоўваць бібліятэка (колькасьць вёсак, лічба насяленьня і адлежнасьці вёсак раёну), аб тым, ці ёсьць якія беларускія арганізацыі, або небеларускія, і як працуюць. Пажадана наагул чым больш дакладная і ўсебаковая характэрыстыка мясцовага жыцьця ваколіцы.

Усім паданым вамі асобам высылаем з свайго боку статут Т. Б. А. — для азнаямленьня з мэтамі Т-ва.

---

Сэкрэтарыят Т. Б. А. паведамляе, што — па выпаўненьні ўсіх фармальнасьцяў — высылаў кніжныя камплекты для бібліятэкаў-чытальняў на імя наступных, зацьверджаных уладамі, асобаў: 1) Язэпа Калюбакі—у в. Есьманаўцы, 2) Міколы Сумановіча — у фольв. Мяхоўшчына, 3) Тад. Рыбінскага—у в. Адамаўцы, 4) Кастуся Сьцябуракі—у в. Субачы.

**Грам. Осецімскай Веры ў Ваўкавыску.** Вашае пісьмо і грошы атрымалі. Газэту Вам высылаем. Адносна цаны Вы не памыліліся, але было-б для Вас карысьней падпісацца адразу на год ці на паўгоду. На паўгоду каштуе 1 злоты. Дык, можа, мы-б залічылі прысланыя 60 гр. у лік падпіскі на паўгоду, а Вы пасьля дашлеце рэшту. Апроч таго, што таньней, ня плаціце такім чынам за перасылку.

**Гр. Валагускаму ў Празе.** Калі матэрыял, аб якім Вы пішаце, цікаўны, дык ахвотна яго надрукуем.

**Базылю Піўніцкаму ў в. Скупове.** За пісьмо дзякуем. З прыездам трупы справа ня лёгкая. Адрас Міхася М., аб які пытаецеся: Wieś Tobоły, poczta Szarkowszczyzna, pow Dziśnieński.

---

З розных мейсцаў ідуць да нас скаргі ад нашых падпісчыкаў на неакуратную дастаўку ім газэты.

Папросту — не да веры. Есьць быццам гміна, у якой высланыя ў яе беларускія часопісы наагул не даходзяць да адрэсатаў, але гінуць бясьследна і... пакуль-што бяскарна. Не падаем яшчэ да агульнага ведама назову гэтае гміны, пакуль не зьбярэм патрэбных фармальных довадаў. Але папераджаем, што, калі дзе якія мясцовыя—паштовыя ці гмінныя—урадоўцы не разумеюць таго, што спраўнасьць пошты, як дзяржаўнага прадпрыемства, гарантавана ўсей дзяржаўнай павагай Польскае Рэспублікі, да якой мясцовыя ўлады, здавалася-б, павінны самі мець дый будзіць у насяленьні давер і пашану, дык мы, поруч з нашымі пакрыўджанымі падпісчыкамі, патрапім знайсьці ў Польскай Дзяржаве вышэйшую ўладу, якая навучыць гэтых яе шкоднікаў, як яны павінны спаўняць свае службовыя абавязкі. **Адміністрацыя.**

**Чытайце і пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22

42917